


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 жніўня 2002 года

№ 33 (382)

Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### Гарачую ваду дадуць не ўсім

МАЛАДЗЕЧНА. З пятніцы ў горадзе пачнуць падключаць гарачую ваду пасля двухтыднёвай апрасоўкі.
Па стане на ўчарашнюю раніцу ў цеплаcетках зафіксавана 20 парываў. Таму некаторыя не дачакаюцца ў тэрмін гарачай вады. Не пашанцавала жыхарам дамоў у раёнах СШ №№ 6, 7, 11, міліцыі, райбальніцы, гарпаліклінікі, магазіна №61, магазіна "Садавіна і гароднiна" па вуліцы Міру і часткі дамоў па Вялікім Гасцінцы, вуліцах Міру і Валынца. Дата падключэння гэтых дамоў вырашыцца сёння на пасяджэнні гарвыканкома.

Ірына РАБУШКА.

### Нацпарк падзялілі на зоны

МЯДЗЕЛ. Нацыянальны парк "Нарачанскі" падзялілі на чатыры зоны: запаведную, строгага рэгулявання, рэакрыяцыйную і гаспадарчую.
Запаведная зона займае каля 8 тысяч гектараў. Яе ўчасткі з каштоўнымі лясными масівамі і балотамі ёсць у чатырох кутках парку. Увайшла ў гэтую тэрыторыю і вялікая частка былога заказніка "Блакітныя азёры". Наведваць запаведную зону для адпачынку стала больш складана. Хіба толькі з навуковымі мэтамі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Івянцу – 610 гадоў

ВАЛОЖЫН. Сваё 610-годдзе Івянец адсвяткуе 17 жніўня.
Гэта ўжо другая спроба правесці свята. Першую адмянілі з-за надзвычайнага становішча пры ўборцы ўраджаю. Свята пачнецца а 9-й гадзіне раніцы і скончыцца дыскатэкай у 2 гадзіны ночы. У Івянец прыедзе заслужаны артыст Беларусі Якаў Навуменка.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Зазвінелі «мабільнікі»

АШМЯНЫ. У раёне цяпер можна карыстацца мабільнымі тэлефонамі. Са жніўня кампанія "МЦС" у Ашмянах займаецца падключэннем мабільных тэлефонаў. Цяпер у раёне налічваецца 25 абанентаў. Пакуль зона прыёму сігналу ахоплівае тэрыторыю радыусам 7 кіламетраў ад райцэнтра. З панядзелка мабільнымі тэлефонамі можна карыстацца і ў Вілейцы.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Пасада – вакантная

ВІЛЕЙКА. Пайшоў у адстаўку загадчык раённага аддзела адукацыі Яўген Кулінковіч.
Ён на гэтай пасадзе адпрацаваў тры гады. А да аб'яднання Вілейскага гарадскога і раённага выканкомаў Я. Кулінковіч трымаў гадоў узначальваў гарадскі аддзел адукацыі. Пасада кіраўніка раённага аддзела адукацыі пакуль застаецца вакантнай. Выконвае абавязкі намеснік загадчыка раённага аддзела адукацыі па метадычнай рабоце Ларыса Петрыкевіч.

Марыя МІКАЛАЕВА.

### Міністр у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА. У сераду ў горад прыязджалі міністр аховы здароўя Людміла Пастаялка і начальнік упраўлення аховы здароўя Мінскага аблвыканкома Інэса Масло.
Яны пабывалі ў гарадской бальніцы, стаматалагічнай паліклініцы і гарадской паліклініцы №2. Мэта прыезду – агляд медыцынскіх установаў і ход падрыхтоўкі да рэспубліканскага семінара, які запланаваны на верасень-кастрычнік.

Ірына РАБУШКА.

### Канцэрт паўднёвакарэйскай піяністкі

СМАРГОНЬ. Сёння ў Доме культуры адбудзецца канцэрт паўднёвакарэйскай піяністкі Соф'і Лі.
Яна выканае творы Бетховена, Шумана і Шапэна. Соф'я Лі закончыла Санкт-Пецярбургскую дзяржаўную кансерваторыю. Зараз стажыруецца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Пачатак канцэрта – а 18-й гадзіне. Уваход свабодны.

Ірына РАБУШКА.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 17 жніўня

Мінск: 11°С (уначы), 23°С (удзень)
Вільня: 12°С (уначы), 25°С (удзень)

Нядзеля, 18 жніўня

Мінск: 11°С (уначы), 23°С (удзень)
Вільня: 11°С (уначы), 24°С (удзень)

# Чараўніца са станцыі Ашмяны

**АШМЯНЫ. Талент скульптара Станіслава Урлік за сабой заўважыла гадоў пятнаццаць таму. Унікальнасць яе твораў у тым, што ў рэгіёне больш невядомыя выпадкі стварэння скульптур з сілікатабетонных блокаў.**


Станіслава Урлік на ўласным агародзе побач са сваімі скульптурамі. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

Калі Станіслава Іванаўна выйшла на пенсію, то задумала стварыць скульптуру. Балазе, сыравіны хапала – у той час абкладвалі цэглай дом і заставаліся рэшткі блокаў. Першым з'явіўся леў, апошнім, дзесьці паўтара месяца таму, – воўк. Цяпер на агародзе ў Станіславы Іванаўны каля двух дзесяткаў "блочных" жывёл і птушак. Яшчэ больш – дома. Сыну колькі падарыла. Ды і не толькі яму.

Калі пачынала, яшчэ быў жывы муж Станіславы Іванаўны. Спачатку не разумеў капрыцы ад захаплення жонкі. Гаварыў, непатрэбшчынай займаешся. Але потым спадабалася.

Жывёл і птушак майстрыха стварае без чарцяжоў і эскізаў.

— Калі задумаю штосьці зрабіць, то, бывае, начамі не сплю. Стараюся ўявіць у дэталях воблік фігур. Ад раніцы ўстаю і працую. Высякаю сякерай, выразаю пілой. Для чыставой апрацоўкі лепш падыходзіць нож. Каб зрабіць скульптуру, патрэбна ад некалькіх гадзін да двух тыдняў. Проста зрабіць мядзведзя. А паспрабуйце выразаць з блока шыю лебедзя! Кволы матэрыял, часцяком крышыцца і ламаецца.

Адкуль з'явіліся здольнасці да выразання скульптур, Станіслава Іванаўна не ведае. Магчыма, ад бацькоў. Маці ўмела вязаць і вышываць, бацька працаваў сталяром.

Праз восем месяцаў Станіславе Урлік споўніцца семдзесят. Гаворыць, майстраваць больш не будзе.

— Зрабіла ўжо шмат. Хопіць.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# Прадпрыемства еўрапейскага ўзроўню

**У першыя гады пасля Вялікай Айчыннай вайны ў Вілейцы з'явілася мэблевая фабрыка. Зараз гэта адно з вядучых прадпрыемстваў горада: кухні і прыхожыя, якія вырабленыя ў Вілейцы, набываюць у Бельгіі і Францыі.**

Нязменны кіраўнік завода **Анатоль Драздоў** змог у свой час пераарыентаваць прадпрыемства і зараз кіруе арганізацыяй еўрапейскага ўзроўню.

### Выратаваў экспарт

Яшчэ да 1991 года ў завода быў вопыт работы на экспарт, у асноўным з Польшчай і Усходняй Германіяй. Таму эканамічны крызіс пачатку 90-х не паўплываў так адмоўна, як на іншыя прадпрыемствы. У той час Вілейская мэблевая фабрыка пастаўляла ў Германію дзесяць тысяч тумбачак у год. Сувязі з Еўропай дапамаглі заводу перажыць не лепшыя часы і ўзняцца на новы ўзровень развіцця без дапамогі крэдытаў. Большую частку прадукцыі мэблевая фабрыка адпраўляе на экспарт: у Заходнюю Еўропу і ў Расію. Прыктычна ўвесь еўрапейскі кантынент ведае, што такое мэбля з Вілейкі.

У савецкі час завод пад кіраўніцтвам Анатоля Драздова выпускаў у асноўным сінтэтычную мэблю, гэта значыць, мэблю з спрасаванага пілавіння і з ДСП. Прычым выступалі больш у ролі зборачнага цэха. Натуральна, якасць такой мэблі не самая лепшая, і шмат пакупнікоў ёй не цікавіцца. Зараз больш сямідзесяці працэнтаў мэблі мае характарыстыку "элітная".

І гэта не проста рэкламная слоўца: такую характарыстыку прысуджвае спецыяльная камісія прафесіяналаў з канцэрна «Беллесбумпрам», выдаецца афіцыйнае пасведчанне. Валюта дапамагла Вілейскай мэблевай фабрыцы цалкам удасканаліць тэхналагічны працэс: большую частку станкоў закупілі ў Заходняй Еўропе і ЗША. "Зараз, — гаворыць дырэктар, — знос асноўных фондаў на нашым прадпрыемстве складае менш трыццаці працэнтаў, што, бясспрэчна, з'яўляецца добрым паказчыкам".

### Што дапамагае цяпер

**— Сыравіна ў вас – беларуская? У замежнікаў беларускі лес і вырабы з яго ці не выклікаюць неспакой?**

— Дуб у нас у асноўным расійскі, бо свайго недастаткова. Прычым частка добрага беларускага лесу знаходзіцца ў цяжкадаступных месцах, і вывезці яго можна хіба што на верталёце. Лак, фурнітуру набываем у Расіі, таксама ў Бельгіі, Аўстрыі, Швецыі, Італіі. Што тычыцца другой часткі пытання, то аднойчы быў выпадак, калі расійскі чыноўнік купіў нашу мэблю і спужаўся. Паднялі на ногі ўсе спецыяльныя службы, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Але ў выніку ўсё аказалася ў парадку. Наогул, да ўсёй нашай прадукцыі прыкладаецца сертыфікат аб радыяцыйнай бяспецы.

**— Вілейская мэблевая фабрыка ўваходзіць у ЗАТ "Маладзечнамэбля". Колькі працоўчых на Вашым прадпрыемстве валодаюць акцыямі і ці ёсць у іх прывілеі перад астатнімі?**

— З трохсот пяцідзесяці чалавек дзвесце – акцыянеры. Пасля кожнага перыяду яны атрымліваюць свае працэнты па акцыях. Але астатня работчыя таксама не ў крыўдзе. Калі ёсць сродкі, мы кожны квартал выплачваем трынаццатую зарплату. Паляпшаем умовы працы: адрамантавалі цэх, накрылі чарапіцай дах. Ставім добрую сантэхніку. Сярэдні заробак за першае паўгоддзе бягучага года – дзвесце дваццаць пяць тысяч рублёў.

**— А ў чым заключаецца наступны парадокс: нашу прадукцыю з задавальненнем купляюць на Захадзе і ў той жа час нашыя будаўнічыя рынкі завалены імпартнай мэбляй?**

— Тут некалькі прычын. Папершае, нам выгадна прадаваць сваю прадукцыю за валюту. Да таго ж, нашы людзі не вельмі купляюць высакаякасную мэблю – яна шмат каштуе.

Па-другое, нашыя рынкі завалены не лепшай мэбляй. Імпарт у асноўным выраблены з ламіраванай пліты. Яна лепшая па якасці, чым сінтэтыка, але значна танней дубовай.

**Прыемную вестку атрымаў калектыў завода ад арганізацыйнага камітэта праекта "Еўрапейскі Саюз – ХХІ стагоддзе". Вынікі ўсебаковага даследавання незалежных экспертаў з краін Еўрапейскага Саюза засведчылі высокую якасць прадукцыі Вілейскай мэблевай фабрыкі. Дырэктар і прадпрыемства за дасягненне лепшых паказчыкаў якасці прадукцыі і паслуг, а таксама за ўкараненне эфектыўных метадаў кіравання ўдастоены міжнароднай узнагароды "Еўрапейскі клас якасці" ў намінацыях "Кіраўнік ХХІ стагоддзя" і "Прадпрыемства ХХІ стагоддзя". З упэўненасцю можна сказаць, што Вілейская мэблевая фабрыка – прадпрыемства, на якое можна і трэба раўняцца.**

Аляксей ЧУБАТ.

■ ЛЕТА

## Скаўты зноў у Будславе

**МЯДЗЕЛ. У нядзелю ў мястэчку распачаўся летнік аб'яднання беларускіх скаўтаў «Ля Будслаўскай святыні».**

Першы падобны летнік прайшоў летась, і было тады каля дваццаці чалавек. А сёлета прыехалі ўжо каля ста ўдзельнікаў з Мінска, Бабруйска, Крупак, Вілейкі, Браслава, Талькі. Выбраны для летніка Будслаў не выпадкова: з–за знакамітага касцёла. Удзельнікі заняты карыснай працай. Наводзяць парадак ля касцёла, на могілках у мястэчку. Потым — вольны час, заняткі скаўцкім выхаваннем, спартыўныя спаборніцтвы і конкурсы. Некаторыя конкурсы нават і не абвяшчаюць.

Прыглядваюцца, як хто сябе паводзіць з дзяцей падчас знаходжання ў летніку, потым і выбіраюць, прыкладам, самага ветлівага і самага беларускамоўнага скаўта.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

## Сялянскае вяселле ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Кастрычнік. Час блізіцца да Пакроў. Апошняя бульбінка пакладзена ў склеп. Надышла пара восеньскіх вяселляў.**

Нашы продкі казалі: "Пакровы пакрываюць траву лістам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам".

Мабыць, такім, як у нявесты з фотаздымка. Але жаніх выдзяляецца больш. Ці не дзіва, што амаль усе госці, якіх мы бачым на фотакартцы, — мужчыны.

Усяго сфатаграфавана 36 чалавек. Відаць, даўнейшыя маладыя былі не з бедных, нягледзячы на складаныя часы.

Цікава было б ведаць, як склаўся далейшы лёс маладажонаў, іх дружыны. Можа, нехта з нашых чытачоў працягне тэму?

**Ірына РАБУШКА.**



Фота з архіва Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

**1921-1922 гады. Сялянскае вяселле ў Маладзечне.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

## У Смаргоні 9 тыдняў баставалі гарбары

Г. Смаргонь Віл. г. Як пішэ С.–З. Гол., скончылася забастоўка ў гарбарнях. Цягнулася яна 9 тыднёў. Рабочые перад забастоўкай мели кассу, куды ўсе адкладывали грошы. Вось, як пачалась забастоўка, дык з гэтай кассы выдавалась падмога тым, каму гэта было патрэбна. Выдана была 1 тысячы 150 руб. 50 кап. Гэта касса шмат памагла забастоўшчыкам цьвёрда трымацца.

**В.**

## Маркоўцы адсудзілі лес

У М. **Маркове** Вилейскаго павету ўжо с тыдни два, як каморник мерыць навокал зямлю мужыцкую и памешчыцкую. А гэта вось з якой прычыны. Кались даўней за паншчынай были у маркоўских мешчан лясы; казна пасьля «воли» адабрала ад маркоўцоў тыя лясы. Маркоўцы ўвесь час судзилися за лес и цяпер ужо, кажуць, адсудзяць сваю справядливую справу, дастануць 100 дзесяцин лесу. Калі маркоўцы ўжо дастануць лес, то нехай не расцягаюць яго без толку кожны сабе па кавалачку, як гэта у нас на Беларуси робицца, гдзе беларусы ешчэ тольки пачынаюць прывыкаць вясьци ўсей грамадой якую добрую справу. Нехай жэ и нашы маркоўцы навучацца исьци ўсе разам, грамадою, нехай мудра зробяць и з грамадскім дабром!

**Н.Л.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками «Наша Ніва». №27 ад 17 серпня 1907 года**

■ ДАТЫ

## Адсвяткавалі юбілей Мальдзіса

**АСТРАВЕЦ. У мінулую пятніцу раённая бібліятэка вітала слыннага земляка, пісьменніка, вучонага, віцэ-прэзідэнта беларускага PEN-цэнтра Адама Мальдзіса. Ён сустрэў сваё 70-годдзе на роднай Астравеччыне.**

Павіншаваць юбіляра прыйшлі прадстаўнікі мясцовай улады, Астравецкага аддзялення Саюза палякаў на Беларусі і мастак (таксама ўраджэнец раёна) **Алег Драбышэўскі.**

Супрацоўнікі раённай бібліятэкі падрыхтавалі выстаўку, на якой былі прадстаўлены матэрыялы аб жыцці і творчасці Мальдзіса, а таксама кнігі з яго кнігазбору і іншыя рэчы, якія зямляк падараваў бібліятэцы.

Вядучыя вечара прайшліся па асноўных фактах біяграфіі.

У той дзень шмат было выказана слоў удзячнасці юбіляру. "Сто лят" спявалі, як водзіцца, усе прысутныя.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

■ АДПАЧЫНАК

## Бясплатныя пуцёўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 14 па 31 жніўня 150 дзяцей адпачнуць у дзённых аздараўленчых летніках працы і адпачынку.**

Іх стварылі на базе Чысцінскай, Красненскай, Гарадзілаўскай, Лебедзеўскай і Палачанскай школ.

Пуцёўкі ў летнікі аплаціла Мінскае абласное ўпраўленне рэспубліканскага цэнтра па аздараўленню і санаторна-курортнаму лячэнню. Адпачнуць школьнікі, якія дапамагалі ўбіраць ураджай. На адно дзіця выдзелілі 45 тысяч рублёў у раённы аддзел адукацыі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Гарэла білетная каса

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 жніўня ў гарадскім парку загарэлася драўляная білетная каса, што будуецца.**

Сігнал у пажарную часць паступіў у 4.55 раніцы. Дах знішчаны поўнасцю. Сцены пашкоджаны агнём знутры.

Матэрыял перададзены ў міліцыю. Мяркуецца, што гэта быў падпал.

**Ірына РАБУШКА.**

■ РЭХА НАШЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ

## Што станецца з бібліятэкамі?

**У "РГ" за 26 ліпеня маю ўвагу прыцягнуў матэрыял Івана Мёдава "Беднасцю па індэксу чалавечага развіцця".**

У ім аўтар расказвае аб сённяшнім становішчы бібліятэк і друкаванага слова. Бібліятэкам больш чым у два разы скарацілі падпіску на газеты і часопісы.

Культура зноў стала закладніцай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. І калі па ўзроўню чалавечага развіцця Беларусь сёння на 56-й пазіцыі, то яго прагноз праз 10-15 гадоў – несуцяшальны.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ.**

■ ПАРТРЭТ

## Ганаровы донар баіцца лячыць зубы

**МАЛАДЗЕЧНА. Вячаслаў Карнееў у 20 гадоў атрымаў званне ганаровага донара СССР. Праз 28 гадоў – званне ганаровага донара Рэспублікі Беларусь. Ён здаваў кроў больш за 100 разоў.**

### Сустрэча

Сонца то выглядала, то хавалася за хмары. З раніцы павеела ветрыкам. На дарозе з'явіўся чалавек. Апрануты ў светлыя штаны, белую сарочку. Здалёк ён здаваўся старэнькім: барада, вусы, акуляры і белая шляпа са светла-карычневай аддзелкай. Даведалася, што яму толькі 54. Нечаканая пачалі размаўляць.

Дамовіліся аб сустрэчы ў яго на рабоце.

Месца работы Вячаслава Карнеева – вуліца Багдана Хмяльніцкага ў самым яе пачатку. Ён заўсёды навідавоку ў тамтэйшых жыхароў, бо працуе *дворнікам.*

### Лёс

Ніякіх пачуццяў пра тыя два дні, калі яму ўручалі "ганаровыя" пасведчанні, у яго няма. Маўляў, звычайныя былі дні, ільготамі пасля гэтага ніколі не карыстаўся. Дарэчы, ён іх мае 7. Зубы хацеў бы вылечыць...

— Вось паслухайце: "З-з-з-з...". Баюся я гэтага.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Ганаровы донар СССР і Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Карнееў.**

... Родам Вячаслаў Карнееў з Пастаў. У 5-гадовым узросце разам з бацькамі прыехаў у Маладзечна. Кажа: "У школе серадняком я быў. Але ў 15 гадоў без бацькоў на "кукурузніку" з Пастаў у Мінск лётаў". Пасля школы пайшоў у ПТВ-21 на муляра. Аднойчы па радыё пачуў, што патрабуецца донарская кроў. Пайшоў. Тады яму было 17. З узнёсласцю кажа: "Такую лёгкасць адчуў. Дапамог некаму".

Амаль адразу пасля гэтага адбылася трагедыя – загінулі бацькі. Прычым маці памерла ад страты крыві.

— (З самотай успамінае). Як ж так любілі дзеткі. У дзіцячай бальніцы нянькай працавала.

А бацька пакінуў сыну талент мастака.

Не заўважыў, як праляцела армейская служба ў Маладзечанскай вайсковай часці. Потым ажаніўся. Нейк атруціўся памідорамі і агуркамі з маянэзам. У інфекцыйную бальніцу трапіў. Там з жонкай і пазнаёміўся. Таксама лячылася.

Праз пэўны час у іх з'явіўся сын. Зараз ён пайшоў у манастыр.

### Спадчына

Расказаў Вячаслаў Карнееў, што продкі яго паходзяць ад князя Вялікага Княства Літоўскага Гедыміна. Дарэчы, Вячаслаў падобны на яго.

— Вусы і бараду спецыяльна адпусціў, каб на Гедыміна яшчэ больш быць падобным.

Бабуля і дзядуля Вячаслава ў Вільні жылі. Багачамі былі. У 1939 годзе ў Сібір іх саслалі. Там яны ад голаду памерлі.

Шкадуе Карнееў аб страчаных сувязях з дваюрадным братам. Нават імя яго не памятае. Ён асабіста падарыў Брэжневу сваю карціну "Крэмль", якую той перадаў потым Індзіры Гандзі.

...І марыць цяпер Вячаслаў Карнееў хутчэй пайсці на пенсію і з'ездзіць на святую гару Афон, што ў Грэцыі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ АДПАЧЫНАК

## Раённы турыстычны летнік

**АШМЯНЫ. За 20 дзён адпачынку ў раённым турыстычным летніку школьнікі не толькі адпачывалі ў сябе на базе, але і ездзілі на экскурсіі ў Гальшаны, Астравец і Мінск.**

Загадчыца раённага Дома юнага турыста **Тэрэса Кошань** расказала, што ў вольны ад паездак час школьнікі хадзілі на рэчку. Не абышлося і без конкурсаў. Міс летніка стала вучаніца другога класа Ашмянскай СШ №3 **Аліна Кошань.** Хлопчыкі таксама не адсталі. Жадаючых пераапранулі ў жаночае адзенне, арганізавалі конкурс "Міс летніка наадварот". Гэта быў самы відовішчны конкурс. Больш за іншых журы зачараваў трэцякласнік пачатковай школы **Арцём Гусакоўскі.**



Фота Тэрэсы КОШАНЬ.

**Турысты з Ашмяншчыны на Астравецкім возеры: Аліна Кошань, Людміла Варакса, Надзея Шыманская, Каця Ларыёнава, Святлана Лыскойць.**

Яшчэ былі конкурсы па шахматах і шашках, спартландыя, конкурс турыстычнай моды і конкурс малюнкаў на летнюю тэматыку. Карацей, школьнікам сумаваць не прыходзілася.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СУВЯЗІ

## Пасябравала Камарова з Мінскам

**МЯДЗЕЛ. Цесна супрацоўнічаюць паміж сабой сельскагаспадарчы ліцэй, жаночая арганізацыя з Камарова і Еўрапейскі гуманітарны універсітэт (ЕГУ) з Мінска.**

Універсітэт дапамагае рыхтаваць і праекты, што накіраваны на развіццё Камарова і рэгіёна. Студэнты ЕГУ выконваюць курсавыя і дыпломныя праекты на базе мясцовага матэрыяла. Адзін з апошніх праектаў тычыцца рэканструкцыі былога будынка кацельні, дзе зараз праводзяць дыскатэкі.

А студэнты спланавалі там зрабіць цэнтр моладзі «Перакрыжаванне» з арыгінальным дызайнам. Так, уваход на дыскатэку – праз аўтобус, а прадаваць білеты будзе адпаведна кандуктар.

У ліцэі ўжо ажыццявілі некалькі студэнцкіх праектаў. Мяркуюць заняцца і гэтым. Першым крокам можа быць правядзенне ў будучым годзе летніка, дзе на рэканструкцыі кацельні будуць працаваць разам студэнты ЕГУ і навучэнцы ліцэя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПРАФЕСІЯ

# Другая «хуткая дапамога»

**МАЛАДЗЕЧНА. 67 таксістам дазволена займацца перавозкамі пасажыраў. Дзяржаўнага таксі ў горадзе не існуе. Усе вадзіцелі таксі з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі.**

## Таксісты

У таксісты прыходзяць людзі розных прафесій: музыканты, спартсмены і г.д. Іх сярэдні ўзрост – 35 гадоў. Каля 10 працэнтаў вадзіцеляў маюць пенсіённы ўзрост. Таксісты тлумачаць, што пасля 35 гадоў на працу вадзіцелем уладкавацца складана. Маўляў, маладыя патрэбны. Выйсце знаходзяць – становяцца таксістамі. У першую чаргу для гэтага трэба мець вадзіцельскае пасведчанне катэгорыі "В" і прайсці медыцынскую камісію.

Урач-тэрапеўт палікінікі №2 Аляксандр Скрабін зазначыў, што даведка аб допуску на работу таксісту даецца тэрмінам да 5 гадоў. Яна можа быць годнай і 1 год, бо ўсё залежыць ад стану здароўя чалавека.

- Іншы раз і не ведаем, і не цікавімся, дзе працуе чалавек. Глядзім толькі, на якую катэгорыю вадзіцель праходзіць медкамісію. Потым выдаём даведкі ці накладаем абмежаванні, калі гэта неабходна. Статыстыку прафесійных захворванняў таксістаў не вядзём.

## Кошт паездкі

Самая маленькая "суполка таксістаў" – вадзіцелі на трох савецкіх "Волгах" з больш чым 10-гадовым тэрмінам эксплуатацыі Яны арэндуюць машыны за 50 доляраў у месяц у аўтапарка №2.

Выклікаць таксі можна па тэлефоне альбо "узяць" на месцы. Новы дзённы тарыф за 1 кіламетр складае 550 рублёў, начны – 825 рублёў.

Танней абыдзецца таксі, якое пазначана лічбамі 061. За адзін кіламетр бяруць 450 рублёў удзень і 680 ноччу. На кожную змену адведзена па 10 машын. Гэта самая арганізаваная суполка. Рэгулярна праводзяць сходы, дзе вырашаюць узнікшыя праблемы.

Кліентаў цяпер не так шмат, і многія з таксістаў зазначаюць, што ў некаторых выпадках гатовы саступіць у цане. Толькі аб гэтым дамаўляцца трэба адразу, да адпраўлення. Грошы, праўда, таксама трэба даваць наперад. Былі выпадкі, калі вадзіцелі давяралі кліентам і заставаліся з носам. Аднойчы нават у Гомель бясплатна завезлі

Найбольш пасажыраў увечары, у выхадныя і святочныя дні. З вакзалаў часцей падвозяць на рэчавыя і калгасныя рынкі. На апошні нават бабулькі з вёсак пад'язджаюць. Скінуцца, праўда, на чацвярых-пяцярых і вандзэлак з прадуктамі давязуць.

## Канкурэнцыя

Кожная суполка мае сваю тэрыторыю. Да канкурэнтаў ставяцца з насцярогай. Нават выганяюць са свайго месца. Не любяць таксісты так званых "фільтраў", тых, хто пад'язджае час ад часу падпрацаваць на ўласнай машыне.



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Маладзечанскія таксісты бавяць час па-рознаму. Калі чакаць кліентаў прыходзіцца па 2-3 гадзіны, гуляюць у карты, чытаюць газеты або размаўляюць пра жанчын...**

## Небяспека

Усім вядома, што часцяком жыццё таксістаў аказваецца ў небяспецы. Іх душаць, забіваюць, пускаюць у ход агнястрэльную зброю і нажы. Напрыклад, таксіста Уладзіміра Сіліча бандыт за нос пакусаў, і цяпер шрамы відаць.

Таксісты ніяк не могуць заставіць кліента плаціць грошы за праезд. Выхад знайшлі: на адрас, дзе здараліся ўжо непрыемныя выпадкі, больш не адклікаюцца. У некаторых сітуацыях могуць і не спыніцца, калі едуць па дарозе, а хтосьці галасуе. Тлумачаць, што знешнасць чалавека адыгрывае вялікую ролю ў прыняцці рашэння. Асабліва не хочуць мець справу з п'янымі людзьмі.

## Праблемы

Прадпрымальнік-таксіст **Юрый Лемешаў** акрэсліў кола праблем, якія хвалююць таксістаў.

- Асноўная праблема тычыцца той фіксаванай стаўкі ў 35 еўра, якую мы плацім штомесяц. У параўнанні з нашымі даходамі яна здаецца высокай. Звярталіся ў гарвыканком, адказ быў адмоўным. Тут плануюць гэтую суму павялічыць яшчэ на 50%. З гэтага месяца ўведзена і сацыяльная страхоўка, гэта плюс 30 тысяч рублёў. А пра 10-гадовую эксплуатацыю машын і казаць нічога не хочацца. Нас проста паставяць на калені, улічваючы невялікі попыт на паслугі таксі.

Мы самі сабе стварылі працоўныя месцы і плацім падаткі. Для горада зашмат таксістаў, але гарадскім уладам выгадна збіраць грошы з большай колькасці падаткаплацельшчыкаў. Можна было б неяк абмежаваць выдачу ліцэнзій.

Навошта нам на ўласныя машыны ставіць жоўтыя палоскі? Праз год гэта палоска адклеіцца, і на гэтым месцы фарбы не будзе. Як я прадам машыну? Здаецца, на машыне дастаткова фішкі таксі. Яе можна зняць у любы момант, калі не працуеш.

## Паслугі даражэюць

**У жніўні ў Беларусі зноў вырас дапушчальны ўзровень тарыфаў на перавозку пасажыраў легкавымі таксі. Паслугі таксі сталі даражэйшымі на 20 працэнтаў. Гэта выклікана незапланаваным ростам цэн на паліва. Згодна з пастановай Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі, цяпер кошт аднаго кіламетра прабегу таксі ў дзённы час складае 550 рублёў (раней – 450).**

## Новыя правілы для таксі

**Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі прапанавала праект новых правілаў аўтаперевозак пасажыраў. Машына павінна быць пафарбавана ў жоўты колер або мець жоўтую паласу па ўсёй даўжыні бакавой паверхні кузава. З 1 студзеня 2003 года для таксі будзе ўстаноўлены максімальны тэрміны эксплуатацыі – 10 год. З 20-гадовага ўзросту можна працаваць таксістам.**

■ ГІСТОРЫЯ АД КІРОЎЦЫ

# Ваенны білет на памяць

**Валянцін Шульжыцкі адпрацаваў таксістам 13 гадоў.**

- Цямнела ўжо. Падвозіў неяк салдаціка ў Сасновы Бор. Ён толькі дэмабілізаваўся. Шчупленькі такі. Стаў прасіцца: з сабой грошай няма, а дома ёсць. І ваенны білет мне тыкае. Пашкадаваў, паехалі мы. Пачаў ён выхваляцца, што ў арміі яго ўсе баяліся. Тады схапіўся за руль і кажа: "Едзь прама". Спыніўся я. У рукапашную счапіліся, па зямлі качаемся. Машыны побач праязджаюць, ніхто нават не спыняецца. А я выхапіў у яго ваенны білет і з'ехаў. Праз год бацька яго за білетам прыходзіў. Я выкупіць прапанаваў за двайны тарыф да Сасновага Бору. Ваенны білет так і застаўся ў мяне.

■ АЎТАМАБІЛЬНЫЯ БАЙКІ

# Не датычыцца, дык не датычыцца

Расказаў сваяк майго сябра. Ён працаваў у Кішынёве на інкасатарскай машыне.

Прыехалі яны да якогасьці магазіна, інкасатары пайшлі ўнутр, а сваяк сядзіць у машыне. Сам аўтамабіль спынілі прама пад знакам "Прыпынак забаронены". І ўбачыў гэтую справу мясцовы работнік ДАІ. З-за спякоты ў машыне акно было прыадкрыта, што, у прынцыпе, парушэнне.

Даішнік гэты ўставіў твар у акно і паведамляе: "Нельга стаяць". Сваяк яму ціха так: "Інкасацыя". Той зноў: "Нельга стаяць". І адчуваецца, што па-руску ён гаворыць блага. Не сябруе з вялікім і магутным. Сваяк яму мацней – "Інкасацыя", адкрыў акно пачаў даставаць на ўсякі выпадак свой пісталет.

Даішнік ўжо паспеў залезці ў акно, але калі ўбачыў пісталет, сказаў: "Ну, не датычыцца, дык не датычыцца". Хутка адышоў і таксама хутка змыўся.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Спыняе міліцыянер аўтамабіль з бландзінкай за рулём.

- Вашыя правы, калі ласка.
- Чаго?
- Правы, калі ласка.
- А што гэта такое?
- Гэта такая рэч з вашым здымкам.
- Аааа. (Капаецца ў сумачцы, дастае люстэрка). Калі ласка.
- (Глядзіць у люстэрка). Так бы і сказалі, што вы міліцыянер.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Як часта карыстаецеся паслугамі таксі?

**Такое ўражанне, нібы ў лесе апытанне рабілі. Большасці апытаных машыны не патрэбныя. А пра таксі і казаць няма чаго.**
**Таксі цяпер не карыстаецца папулярнасцю.**
**Людзей зразумець можна. У большасці выпадкаў даходы не дазваляюць такой раскошы. Як у кіно: «Нашы людзі ў булачную на таксі не ездзяць».**



**Людміла Мароз, пенсіянерка:**

— Не карыстаюся. У нас у кожнага свая машына ёсць. Усіх тры – у мяне, у мужа і ў сына.



**Таццяна Пушкарова, праваднiца:**

— Увогуле не карыстаюся. Калі жыла ў Мінску, хапала тралейбусаў і аўтобусаў. Цяпер таксі мне не трэба.



**Алег Кулік, электраманцёр:**

— З гулянак розных на таксі еду. Цана задавальняе.



**Мікалай Захарыч, беспрацоўны:**

— Калі танней было таксі, то ездзіў. А зараз – не.



**Дзіна Таўць, швачка:**

— Ніколі не прыходзілася. Напэўна, яно дарагое. Разы ў два больш каштуе, чым аўтобус.



**Ніна Бандарык, бухгалтар:**

— Няма грошай, дык ніколі і не карыстаюся. Таксі патрэбна толькі людзям, якія могуць гэта сабе дазволіць. Ці калі ідзеш позна.



**Віталь Рамановіч, ахоўнік:**

— Тры разы ў жыцці ездзіў на таксі. Часцей – грошы не дазваляюць. Ды я нікуды і не спяшаюся. Выходжу загадзя. Але таксі патрэбна. Напрыклад, ноччу лепш ехаць, чым ісці.



**Раман Вількоўскі, вучань:**

— Ніколі ў жыцці не ездзіў. Хацеў бы, але вельмі дорага. Па гораду, можа, тысячу заплаціць трэба, а за межы – 8-10 тысяч рублёў. Мама з татам бывае ездзяць. Але навошта тое таксі – аўтобусаў хапае. Хіба што ноччу пад'ехаць.

**Матэрыялы паласы падрыхтавалі Ірына РАБУШКА і Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

